Цана асобнага нумару **20** гр.

№ 1. Вільня, Субота 22 Чэрвеня 1929 г. Год 1.

# СЬВЕТ

Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Вялікая вул. № 3 кват 10 (над цынкаграфіяй Занеўскага).

„СЬВЕТ“ каштуе на год — 8 зал., на паўгоду — 4 зал.; на чвэрць году — 2 зал., на 1 месяц — 1 зл.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., 2 і 3—25 гр., на 4-ай — 20 гр., за радок дробнага друку ў аднэй палосцы.

## ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.



## Да чытачоў.

Выпускаючы першы нумар нашае газэты, хочам зьвярнуцца да чытачоў з просьбай дапамагчы нам матэр'яльна, падпіскаю на нашу газэту, а таксама прысылкай інфармацыяў аб жыцьці Вашай ваколіцы.

Газэта будзе мець на ўвазе жыцьцё шырэйшых колаў беларускага народу, як у вёсцы так і месьце нашага краю, будзе апісваць і тлумачыць праявы гэтага жыцьця.

Не падлягае сумляваньню, што ў самых глухіх закутках беларускай вёскі прагнуць гэтага «Сьвету». Існуючыя беларускія газэты, трэба сказаць, не падыходзяць да шырокіх колаў вёскі і места і яны туды ня маюць доступу, — іх чытаюць вельмі мала. Патрэба шчырага ўніканьня ўва ўсё тое, чым жывуць гэтыя шырокія колы нашага грамадзянства, каб зацікавіць іх сабою і каб з большым пасьпехам усьведаміць іх, навучыць. Шмат зьявішчаў адбываецца на нашых вачох, якія многім незразумелы і патрабуюць выясьненьня.

Чаму большасьць сялян бяднее, а некаторыя чуюць сябе зусім добра і нават багацеюць, чаму ў месьце, як і ў вёсцы, шмат безработных, чаму яны мусяць наймацца за парабкоў, чаму шмат падаткаў, якія падаткі, ці на што яны бяруцца і г. д. — гэта ня ўсім ясна.

Маем і больш шырэйшыя зьявішчы, якія выклікаюць зацікаўленьне амаль усіх прыціснутых бядой.

На вялікім абшары амаль усяго Віленскага ваяводзтва і часткі Навагрудзкага пануе голад. Па ўсяму краю адбываецца ліквідацыя сэрвітутаў, праводзіцца камасацыя, нешта падобнае да пераходу на хутары. Дзе і як усё гэта адбываецца-без газэты, маючай шырэйшае распаўсюджаньне, як да гэтых зьявішчаў адносіцца, уясьніць кожнаму даволі цяжка.

У гарадох работнікі вымушаны часта ісьці на забастоўкі, сьвядома адмаўляцца ад патрэбнага кавалка хлеба. Чаму гэта так— таксама ня ўсе разумеюць.

Усюды па Краі пазакладаны розныя арганізацыі, грамадзкія, палітычныя, культурна-асьветныя, гаспадарчыя, вайсковыя, спартовыя і т. д. Іх мэта і праца ня кожнаму і ўсюды ясна.

Часта адбываюцца выбары ў самаўрады, Касы Хворых і т.д. Як адносіцца да гэтых выбараў, каго выбіраць, як захоўвацца на выбарах — гэта таксама патрабуе выясьненьняў.

У мінулыя гады адбывалася ўпорлівая барацьба за родную школу і ў нязначных выпадках ёсьць сякія-такія рэзультаты. У якім стане знаходзіцца справа роднай школы, што трэба рабіць для гэтага — таксама ня высьветлена.

У цэнтры беларускага руху сярод інтэлігенцыі патварылася шмат палітычных групаў. Хто з іх запраўдны прыяцель, хто вораг — без газэты таксама разабрацца трудна.

Ня можна сказаць, што шырэйшыя колы нашага грамадзянства ня хочуць ведаць і аб гаспадарчым і палітычным жыцьці цэлае Польшчы, а таксама і ўсяго сьвету.

Наша газэта па меры магчымасьці будзе ўсё вышэйсказанае аб'ектыўна высьвятляць, спадзяючыся, што знойдзе сярод вясковай і гарадзкой гушчы прыхільнікаў, якія прыйдуць нам з дапамогаю, як выпіскай, так і пашырэньнем газэты, прысылаючы адначасна інфармацыі аб сваім жыцьці.

Спадзяёмся, што наш заклік не ўпадзе на пустую глебу і што нашы пачынаньні знойдуць шырэйшы водгалас і газэта станецца «Сьветам», які асьвеціць наш цёмны Край.

## Вынікі ангельскіх выбараў.

У міжнародным жыцьці адбыўся факт першараднага значэньня— выбары ў Англіі, у найвялікшай у сьвеце імпэрыялістычнай дзяржаве. У выніку гэтых выбараў да ўлады прыйшоў нібы работніцкі урад, — факт, які здавалася-б павінен мець эпохальнае значэньне ў гісторыі ўсяго людзтва. Аднак вельмі памыліўся-б той, хто-б думаў зрабіць падобны вывад. Мала таго, мыляецца і той, які спадзяецца ад гэтага ўраду хацяж-бы паважнейшых зьменаў ува ўнутранай і вонкавай палітыцы самай Англіі.

На першы пагляд гэта здаецца недарэчным. Аднак, памінаючы самы факт, што урад апіраецца на меншасьці ў парлямэнце і залежыць ад волі лібэралаў (287 лябурыстаў, 262 кансэрватараў і 54 лібэралы), аб гэтым сьведчыць перадусім сама праграма „Лябур Парты“ і заявы яе ўраду.

Калі яшчэ ў 1918 годзе „Лябур Парты“ ставіла сабе заданьнем **неадкладную нацыяналізацыю** чыгунак, шахтаў, электрычнасьці і наагул усіх аснаўных галін прамысловасьці, дык сучасная праграма з 1918 г. жадае **„паступовага аграмаджэньня“** гэтых галін, „бяручы пад увагу асобныя патрэбы і асаблівыя абставіны“. На гэтым аднак эволюцыя „Лябур Парты“ ня спынілася. У выбарнай праграме з 1 траўня яна прапануе толькі „рэарганізаваць“ транспарт і прыватныя чыгункі, а іншыя галіны прамысловасьці павінны быць толькі абсьледаваны. Праўда, што яна прапануе яшчэ і нацыяналізацыю вугальнай прамысловасьці, але... шляхам выкупу. У дадатку да гэтага кантраляваць яе павінен не работніцкі кантроль, але кантроль „работніцкай большасьці“, гэта знача нявыключаючы буржуазіі.

У гэтым-жа выбарным маніфэсьце „Партыя Працы“ падкрэсьлівае, што яна рашуча выступае проці ўсякага насільства, рэвалюцыйнага захопу і **„канфіскацыі“**. Пасьля ўсяго сказанага не астаецца і найменшага месца для ілюзіяў адносна зьмены, ці хацяж-бы спробаў, імкненьняў да зьмены грамадзкага ладу у Англіі з боку ўраду „Лябур Парты“.

Ня лепш стаіць справа і з падставовымі пытаньнямі бягучай дзяржаўнай палітыкі. Асноўнай проблемай сучаснай Англіі, навакол якой круціцца ўсё палітычнае жыцьцё, зьяўляецца ўсё узрастаючае безрабоцьце, гэты вынік раскладу і заняпаду брытанскага капіталізму. У няздольнасьці да вырашэньня гэтага пытаньня крыецца галоўная прычына паражэньня кансэрватараў і прыходу да ўлады „Партыі Працы“. Гэтае пытаньне стаяла ў самым вогнішчы выбарнай барацьбы з безрабоцьцем і ад ступні даверра мас у здольнасьць той або іншай партыі вырашыць гэтае пытаньне, залежалі фактычна вынікі выбарнай барацьбы.

Безрабоцьце — вось пытаньне, пад знакам якога праходзіла ўся выбарная дэмагогія і барацьба. У часе гэтых выбараў „Партыя Працы“ вылажыла шырокую праграму барацьбы з безрабоцьцем. Побач з шырокім плянам будовы шляхоў і мастоў, асушкі балот, пашырэньня электрычнай і тэлефоннай сеткі і г. д., галоўны націск у гэтым пляне барацьбы з безрабоцьцем кладзецца на рацыяналізацыю прамысловасьці, на стварэньне з гэтай мэтай адумысловага міністэрскага „камітэту эканамічнага разьвіцьця“. Ня лішнім тут будзе сказаць, што гэты плян мала чым розьніцца ад пляну лібэралаў, але ня ў гэтым справа. Нас цікавіць перадусім, у якой ступені урад „Партыі Працы“ зможа зрэал заваць гэты свой плян, наскольки зможа справіцца з безрабоцьцем.

Уведзеная ў плян разбудова шляхоў, мастоў і г. д. якая-б запраўды магла значна зьменшыць безрабоцьце, зьяўляецца найменш рэальнай часткай пляну. Разбудова гэта вымагала-б аграмадных засобаў, даць якія буржуазія дабравольна (як гэтага хоча „Партыя Працы“) ніколі ня згодзіцца. Калі-б, для падтрыманьня свайго ўплыву ў работніцкай клясе, урад Макдональда толькі заікнуўся у парлямэнце аб значнейшых засобах на гэтую мэту, дык пэўна, што ад яго не астанецца і сьледу, як гэта ўжо раз і здарылася ў 1924 г.. Ды зрэшта Макдональд гэтым разам і ня сьпяшаецца рабіць паном лібэралам гэткіх турботаў, як галасаваньне разам з кансэрватарамі. Аб гэтым ён выразна кажа ў сваім прэм'ерскім інтэрвю: „работніцкі ўрад будзе ўнікаць **непатрэбных** выдаткаў, але **ня гледзячы на гэта**, я пэўны, што і так з пасьпехам змагацімося з безрабоцьцем“.

Ці-ж трэба выразьнейшай заявы? Што-ж дасьць тады работніцкай клясе пастаўленая Макдональдам у цэнтр усей палітыкі рацыяналізацыя прамысловасьці і зьвязаны з ей „камітэт эканамічнага разьвіцьця“? Што дасьць ей Макданальдаўскі „мір у прамысловасьці“ і „супрацоўніцтва між капіталам і працай“? — Далейшае, ды нават больш узмоцненае, як за часоў Бальдуіна, выкіданьне на брук лішніх у зрацыяналізаванай прамысловасьці рабочых рук, далейшае павялічэньне безрабоцьця, паніжэньне заработнай платы, прадаўжэньне рабочага дня.

Адначасна з гэтым, „з мэтай павышэньня агульнага эканамічнага дабрабыту,“ „камітэт эканамічнага разьвіцьця“ будзе даваць прамыслоўцам парады. Да таго-ж пераложыць так сама ўсю рызыку за дарагія рацыяналізатарскія досьледы з паноў прамыслоўцаў на дзяржаву або інакш кажучы на кішаню ўсяго грамадзянства. Ня трэба ўжо хіба і казаць, што ўсе вялікія, дарагія, маладаходныя, але неабходныя, зьвязаныя з рацыяналізацыяй работы — само сабой пераймe дзяржава.

Як бачым, у пытаньні барацьбы з безрабоцьцем, палітыка „работніцкага“ ураду хіба толькі тым будзе адрозьнівацца ад палітыкі Бальдуіна, што капіталістычная рацыяналізацыя прамысловасьці за кошт работніцкай клясы будзе праводзіцца такім тэмпам, на які ня змог здабыцца урад Бальдуіна.

Гэтая-ж гэнэральная лінія „работніцкага“ ураду на рацыяналізацыю абварункоўвае сабой і ўсю замежную палітыку Англіі. Як ведама, рацыяналізацыя спараджае дадатковыя патрэбы з аднаго боку ў капіталах, з другога боку ў рынках збыту і сырца. Гэтымі двума фактамі (дзейнікамі) і тлумачацца пэўныя **часовыя і частковыя** зьмены ў міжнароднай палітыцы Англіі: часовае адпружэньне адносін з Амэрыкай і пэўная зьмена палітыкі ў адносінах да С.С.С.Р.. Зьвязаная з рацыяналізацыяй дадатковая патрэба ў капіталах значна звужвае магчымасьці Англіі на полі выперадак з Амэрыкай у марскім ўваружэньні і змушае часова на пэўныя кампрамісы з апошняй. З другога-ж боку, павялічаная ў зьвязку з рацыяналізацыяй патрэба рынкаў збыту змушае урад „Лябур Парты“ да навязаньня дып

лёматычных і торговых зносін з С.С.С.Р.

Ня было-б аднак вялікшай памылкі, калі-б мы гэтыя часовыя зьявішчы прынялі за сталыя. Наадварот. Рацыяналізацыя яшчэ больш павялічвае, узмацняе канкурэнцыю між імпэрыялістычнымі дзяржавамі, яшчэ больш абвастрае барацьбу за рынкі збыту і сырца, вядзе ўрэшце да яшчэ большага абвастрэньня міжнародных канфліктаў і росту ўваружэньняў. У канчаткавым сваім выніку рацыяналізацыя, якую праводзіць „Лябур Парты", прывядзе да яшчэ большага павялічэньня небясьпекі вайны, як з Амэрыкай, гэтак і С.С.С.Р.

У цеснай сувязі з гэтым знаходзіцца факт, што гатуючыся да навязаньня дыплёматычных і гандлёвых зносінаў з С.С.С.Р., урад „Лябур Парты" адначасна з гэтым яшчэ больш рашуча ад ураду Бальдуіна павядзе працу над уцягненьнем Нямеччыны ў антысавецкі блёк імпэрыялістычных дзяржаў, гэты авангард аружнага нападу на СССР.

Як бачым з гэтага, за выняткам нязначных часовых адхіленьняў, палітыка Англіі у выніку выбараў ні ў чым ня зьменіцца. Зусім слушна на 2-гі дзень пасьля выбараў супакойваў сваіх чытачоў „Анжанс Экономік", орган парыскай біржы: „Новы досьлед сацыялізму, разбаўленага ружовай вадзіцай, нічым страшным не зьяўляецца. **Асновы брытанскай палітыкі унутранай і вонкавай астануцца нязьменнымі**". (Падкрэсьлена намі. Р.)

Адно запраўды новае паказалі ангельскія выбары, гэта магутную інстыктыўную цягу да ўлады работніцкай клясы Англіі, цягу, якая не нашла сабе яшчэ тым часам правільнага шляху. Тое аднак, чаму навучылася раней работніцкая кляса у працягу цэлых дзесяцігодзьдзяў, цяпер, у часы заняпаду і загніваньня капіталізму, усвайваецца ею у працягу некалькіх гадоў. Досьлед гэтых выбараў і Макдональдаўскага ўраду бясьследна ня міне. Макданальдаўская палка рацыяналізацыі сваю працу ўсьведамленьня дакане, трэба спадзявацца, даволі хутка.

Гэта быць можа і будзе адзінай трывалай і вялікай зьменай, адзіным трывалым вынікам гэтых выбараў і макданальдаўскага ураду.

# Батракі і профсаюзы.

Працоўныя масы ўсяго сьвету ўжо даўно пераканаліся, на падставе гістарычных фактаў, аб тым, што вызваленьне іх магчыма толькі ў суцольнай барацьбе ўсіх прыгнечаных пад кіраўніцтвам сьвядомага, арганізаванага, гарадзкога пралетарыяту.

Чаму іменна так? Чаму пад кіраўніцтвам пралетарыяту, а не сялянства, напрыклад?

А таму, што гарадзкі, прамысловы пролетарыят, дзякуючы сваім асаблівым умовам жыцьця, пазбаўлены ўсялякай маемасьці, якая бы яго зьвязывала, ці, як кажуць „у будучым вызваленьні яму няма чаго траціць, апрача сваіх ланцугоў, а здабыць ён можа ўвесь сьвет".

З другога боку гэтыя ўмовы злучаюць усіх работнікаў, прывучаюць іх да супольнага жыцьця, прывучаюць іх да арганізацыі, барацьбы, усьведамляюць і твораць, такім чынам, работніцкую клясу магутнай сілай у барацьбе з капіталам за свае інтарэсы.

Сялянства-ж, параскіданае па вёсках, хутарках, зьвязанае нібыта ўласнасьцю, працуе паасобку.

Распыленасьць, дробнаўласнасьць перашкаджае яму ў гуртаваньні сілаў і падгатоўцы барацьбы. Розьніца маемасьці ствараe супярэчнасьці між імі і тады ня можна гаварыць аб сялянстве як аб нечым цэлым. Вызыск з боку буржуазіі ня б'е па сялянству так беспасярэдна і відавочна, як на пралетарыяту.

Вызыск гэты усё-ж б'е ня толькі па пралетарыяту, але і па сялянству, асабліва па бяднейшай частцы, што яны мусяць супольна выступаць у вабароне сваіх інтарэсаў і ў пэўныя мамэнты сялянства робіцца чыньнікам моцна рэвалюцыйным.

Сялянства зьяўляецца магутным дапаможнікам, без якога вызваленьне працоўных немагчыма наагул.

Да рэчы сказаць, нашы мяшчанскія групы, бяручы за пункт выхаду лічбовую перавагу сялянства над пралетарыятам на нашых землях — выводзяць, што яно, сялянства зьяўляецца ў нас адзіным грамадзкім чыньнікам, які толькі сам і адзіна без ніякай дапамогі зможа здабыць вытвараную у габінэтах „незалежную Беларусь". Гэта толькі адзнака буржуазных тэндэнцыяў названых групаў, жаданьняў сьвядома выдзяліць сялянства з агульнага фронту барацьбы працоўных за свае правы.

Вяртаючыся да тэмы, мусім сказаць далей, што ў вёсцы ёсьць яшчэ вялікая рэзэрва безработных, якія працуюць на выпадковых працах у лесе, на дарогах, па дварох, тартакох і г. д., а таксама ёсьць каля 40 тысяч батракоў, якіх можна ўжо назваць запраўдным вясковым пралетарыятам, якія ў процістаўленьні да абшарнікаў зьяўляюцца тым самым, чым зьяўляецца гарадзкі пралетарыят у адносінах да фабрыкантаў.

Да гэтага часу на батракоў не зварочвалася належнае ўвагі, праходзілася неяк міма іх. Аднак іх палажэньне, як вясковага пралетарыяту і як групы, можна сьмела сказаць, найбольш вызысківанай, змушае зьвярнуць на іх большую ўвагу.

Якое-ж палажэньне ў нас батракоў і як яны праводзяць сваю барацьбу за ўласныя штодзенныя інтарэсы?

Батракі знаходзяцца ў поўным распараджэньні абшарнікаў і кулакоў, яны працуюць боль як 8 гадз., у дзень, атрымоўваюць мінімальную заработную плату ад 50 гр. да 2 зл.. Жыцьцё іх не абясьпечанае; абшарнік можа выдаліць свайго парабка і пазбавіць яго срэдстваў істнаваньня. У найгоршым палажэньні ў даным выпадку знаходзяцца жанчыны.

Здавалася-б, батракі, таксама, як і гарадзкі пралетарыят, павінны весьці барацьбу за палепшаньне свайго быту. Аднак, што-ж мы бачым у запраўднасьці?

У той час, калі гарадзкі пралетарыят у процэсе барацьбы з капіталам, паміма партыяў, мае іншы спосаб барацьбы — спосаб профсаюзных арганізацыяў, дзе, пры помачы забастовак у першую чаргу вядзе барацьбу эканамічную, злучаючы яе з палітычнай — за скарачэньне працоўнага дня, за падвышку заработнай платы, за сацыяльнае забясьпечаньне, у гэты самы час вясковы пролетарыят—батрацтва, захоўваецца іначай. Ён амаль ня вядзе барацьбы за палепшаньне свайго быту, ён стараецца вынесьці на сабе найвялікшыя труднасьці, эксплёатацыю, ня выступаючы супроць абшарнікаў і кулакоў. Часта можна сустрэць батрака, які стараецца „падлізацца" да свайго гаспадара, канкуруе з сваімі-ж братамі, працуючы за бязцэн.

Профсаюзаў — гэтага магутнага аружжа барацьбы — амаль што няма, а калі дзе і ёсьць, дык яны апанаваных сацыял — угодовымі партыямі, як П.П.С., Вызваленьне Związek robotników rolnych" і інш., якія стараюцца трымаць іх у падпарадкаваньні гаспадару.

Цемната, забітасьць, прывычка да найвялікшых труднасьцяў, страх перад стратаю працы, ціск з боку гаспадароў — вось прычыны, дзякуючы якім батракі аказваюцца пасыўнай сілай у агульнай барацьбе пралетарыяту.

Профсаюзы могуць быць школай, якая навучыць батракоў, як сьвядомасьці так і барацьбы.

Дзеля гэтага заданьне батрацтва — арганізацыя ў профсаюзы, каб пры помачы іх ісьці на барацьбу супольна з усімі працоўнымі.

Без арганізацыі і батрацкая маса ня мае ніякай сілы. З арганізаваныя, усьвядомленыя батракі — гэта паважная сіла, якая будзе кіраваць барацьбой. Адсюль лёзунг:

**Батракі, калі хочаце быць барацьбітамі за лепшае заўтра — усе да арганізацыі клясавых профсаюзаў.**

# Што чутно у Польшчы.

## Разьвязаньне Саюзу польскіх вальнадумцаў.

10 чэрвеня г.г. па загаду Міністэрства Унутраных Спраў разьвязаны Саюз польскіх вольнадумцаў і закрыты яго аддзелы ў Вільні, Ловічах, Любліне і іншых правінцыянальных гарадох.

Адначасна Міністэрства зьвярнулася да судовых уладаў з прапановаю аб закрыцьці органу саюзу — тыднёвіка „Мысьль". Прычына ліквідацыі — „апанаваньне

# Два канцы аднаго кія.

Ня так даўно, у газэце віленскіх манархістаў „Słowo" (№ 127) зьмешчана перадавіца пад назовам „Zwróćmy na to uwagę", галоўнай задачай якой было паказаць сваім чытачом, зьвярнуць увагу іх на Беларускі Сялянска-Работніцкі Пасольскі Клюб, які газэта называе „новаю Грамадай".

Пачаўшы з успамінаў аб паходзе работнікаў ў Вільні І-га мая, на чале якога быў па газэце пасол Дварчанін, — аўтар стацьці сьпярша інфармуе аб паўстаньні і ўфармаваньні ў Сойме „Беларускага Сялянска-Работніцкага Пасольскага Клюбу з пяці асоб; потым абгаварвае тактыку Клюбу і „адменны характар яе".

„Унутры арганізацыі пануе дзіўная ціша. Паслы з Бел. Сялянска-Работніцкага Клюбу ня робяць ніяхіх мытынгаў, ніякіх сабраньняў справаздаўчых, або арганізацыйных. Прэса грамадаўская зусім занікае. Перасталі выходзіць ня толькі, так добра знаныя і ўсьцяж канфіскаваныя розныя „Праўды" і „Працы", але нават перастала выходзіць грамадаўская гумарыстычная часопісь „Маланка". Здавалася-б на першы пагляд, што наагул новая Грамада, або Белар. Сял--Раб. Пас. Клюб не праводзіць ніякай дзеяльнасьці. Некаторыя факты паказваюць, што такі пагляд быў-бы мыльным. Паказанае заціша ёсьць толькі для вока (pozorne), бо Грамада заняла пазыцыю вычаканьня, ня хоча загадзя выяўляць сваей сілы, працуе затым вельмі асьцярожна, канськіруючы (скрываючы) свае пляны (posunięcia).

Манархістычная газэта замоўчвае аб тым, што стала запраўднай прычынай гэтага заціша—адсутнасьці мітынгаў, заніку прэсы і г. д., хоць гэта ўсім добра ведама. Ніякая легальная грамадзкая арганізацыя, пэўна-ж вядома гэта аўтарам з „Słowa", — самахоць не закопвае сябе пад зямлю. Але „Słowa" зварочвае бяду з хворае галавы на здаровую і хоча бачыць у гэтым сьвядомую тактыку Клюбу.

Аўтар перадавіцы, нейкі „Псл" далей паказвае на факты, якія сьведчаць аб сіле ўплываў Клюбу. Перш — гэта „зьняверанье (zawód) групы былых грамадаўцаў, каторыя пакінулі Грамаду і стараліся зрэорганізаваць Т-ва Бел. Школы."

„Названая група на чале з п. п. Астроўскім і Луцкевічам па вызначэньню („wyłonieniu") спэцыяльнай Камісіі (г. зв. Паўнамоцная Камісія Т-ва Бел. Школьн. Рэд.). мела зарганізаваць Зьезд з мэтаю выбраньня новых уладаў Т-ва, але з сваей спробы зрэзыгнавала (адмовілася). Вызначаны Агульны Зьезд Т-ва адложаны на неазначаны час і задуманая рэорганізацыя ня была дакана. Праўдападобна, адзінай прычынай адкладу Зьезду мела быць прадбачаная паражка ўмеркаваных, рэфарматарскіх элемэнтаў, на рахунак элемэнтаў крайніх ці грамадаўскіх"

Вельмі сымптоматычна, што „Słowo" прызнае істнаваньне „групы на чале з п. п. Астроўскім і Луцкевічам", банкруцтва яе і іменна гэты мамэнт выстаўляе, як першую адзнаку сілы Клюбу!

Другім фактам сілы Клюбу п. Псл. бачыць у выкіненьні з ліку сяброў Беларускага Каапэратыўнага Банку Астроўскага і Каўша і яго „апанаваньне праз грамадаўскія элемэнты".

Але нібы „першай пробай сіл, першым дэмонстрацыйным чынам" Клюбу было „выступленьне беларускай Грамады ў дню І-га мая".

Аўтар ня мінае магчымасьці, каб не сказаць, што гэта было „łącznie z innymi komunistami" і што „заслугуючай адзнакай паходу было, што першы раз сярод белага дня на вуліцах нашае Вільні паказаўся штандар цэнтральнага Камітэту Камуністычнай партыі Зах. Беларусі (К. П. З. Б.), „з чаго аўтар стацьці робіць зусім ня двохзначны вывад, што „калі сыльвэтыя Грамады да І-га мая была туманная (mglista) і нявыразная..." дык „па І-ым мая гэтая сыльвэтка набрала зусім ясных і так добра нам знаных колераў".

Клічнік даволі многазначны. Так і хочацца манархістам ўсякаму шырокаму беларускаму руху прышыць камунізм!

Далей аўтар перадавіцы прыпамінае,

„аб той надспадзяванай пабедзе, якая асягнута Грамадой падчас апошніх выбараў. Здавалася, што да выбараў Грамада стала зусім разьбітая. Некалькі сот выдатных яе сяброў з усімі пасламі і павадырамі на чале, абвінавачаныя ў здрадзе стану, апынуліся ў турме. Праз цэлы час выбараў грамадаўцы нэ зрабілі ані аднаго мітынгу, ня выдалі ані адной адозвы, некалькі выбарчых сьпіскаў сканфіскавана. У выніку ў сучасным Сойме маем новы Грамадаўскі Клюб з той-жа лічбай паслоў, якую мела папярэдняя Грамада, якая патраціла зарганізаваць 100 тысячную партыю, зьвязаць яе дысцыплінай і арганізацыйнай сеткай і так сільна завастрыць нацыянальныя і сацыяльныя адносіны на нашых Крэсах."

Заканчваецца справаздача наступнымі славамі:

„Сягоньня крывавы камуністычны паход на вуліцах Вільні вядзе павадыр новай Грамады—пасол дварчанін.

Факт гавораць за сябе."

Што запраўды гавораць п. п. манархістам з „Słowa" усе гэтыя факты - з ясна выражаных слоў перадавіцы так-такі нічога і ня відно. Але ўжо з факту зьяўленьня падобнай перадавіцы, напісанай, хоць з перакручэньнем фактаў і патрэбнымі недагаворкамі, затым з агульнага тону стацьці і яе тэндэнцыяў мы можам заключыць, што п.п. абшарнікі, згрупаваныя каля „Słowa" проста перастрашыліся жывучасьці і сілы беларускага сялянска — работніцкага руху, і пераканаліся, што нават усе пераджытыя гэтым рухам за апошні час буры ня толькі ня стлумілі яго, а нават і ня зьменшылі. У зьвязку з гэтым абшарнікі падымаюць проста гвалт, каб усе, каму трэба „зьвярнулі на гэта ўвагу" і - ясна - зрабілі ў духу пажаданьняў „Słowa"...

Гэта адношаньне да беларускага сялянска-работніцкага руху добра ведамае і зусім зразумелае з боку „крэсавых" абшарнікаў. Але вось неспадзявана зусім „у вабарону" гэтага руху выступае другі орган польскай санацыі ў Вільні „Kurjer Wileński." У № 135 з 15 чэрвеня і ён зьмяшчае перадавую „Słuszne przesłanki i mylny wniosek" дзе пасьля разбору названай стацьці з „Słowa" прыходзіць да вываду, што яна—перадавіца „Słowa"

**Новы Саюз?** Як нас інфармуюць залажыўся і ўжо зацьверджаны ўладай „Саюз беларускіх вучыцялёў“. Ініцыятарамі Саюзу зьяўляецца „група на чале з п.п. Астроўскім і Луцкевічам“ (як выражаецца „Słowo). На адбытым нядаўна зьезьдзе выбраны урад, у які ўвайшлі вучыцялі з Клецкай Бел. Гімназіі і Радашкаўскай бел. пачаткавай школы. Старшыня Саюзу— п. В. Грышкевіч.

### „Ідэйная“ барацьба пэпэсаў.

У нядзелю адбыўся мітынг пэпэсаў ў Вільні, на якім было найбольш чыноўнічае „чыстае“ публікі. Пас. Бел. Сялянск-Работніцкага Клюбу Ф. Валынец і І. Дварчанін дамагаліся голасу, але пэпэсы паступілі „трошкі“ інакш.

„Słowo“ № 137 піша: „Пэпэсаўскі мітынг у Вільні з перашкодамі“ у нядзелю 16 г. м. адбыўся ў залі „Гэліёс“ абвешчаны чырвонымі плякатамі, расклееными каля магістрацкіх каналізацыйных работнікаў мітынг, скліканы Акружным Камітэтам ППС. На мітынг прыехаў з Варшавы пасол Барліцкі. У часе яго прамовы на залі паўстаў неапісаны крык. Аказалася, што крыклівую авантуру распачалі паслы Дварчанін і Валынец а таксама радны Дзідзюль пры помачы групы членаў ППС Лявіцы.

„Bojówka“ ППС, ліквідуючы авантуру, вынесла авантуруючых і пратэстуючых супроць „swobodzie wypowiadania się“ паслоў на руках. Цікавы з увагі на від паход адчыніў пасол Дварчанін...“

Адным словам, „bojówka“ ППС „працуе“. А „Słowo“ ім сымпатызуе і перакручвае факт: голасу недавалі якурат беларускім паслом.

### Не дапусьцілі да экзамінаў.

Дня 15-га г. м. 11 б. вучняў В.Б.Г. выдаленых у гэтым годзе Куратарыюмам Віленскага Школьнага Вокругу, атрымалі адмоўны адказ на свае заявы аб дапушчэньні да складаньня экзаменаў.

Аб рэшце вучняў яшчэ няведама.

### Працэс забойцы Гурына.

10 чэрвеня адбыўся працэс забойцы вядомага Гурына. „Słowo“ № 131 з 11 чэрвеня падае:

„Учора пачалося распазнаваньне справы Сымона Клінцэвіча, абвінавачанага між інш. у забойстве галоўнага сьведкі ў вядомым працэсе „Грамады“ Міхала Гурына. Судовай расправай кіраваў прэзэс —судзьдзя Мілашэвіч, абвінавачвае пракуратар Калапскі, абараняе адвакат Дурач з Варшавы. На справу паклікана 20 сьведак з боку абвінавачаньня і аднаго з боку абароны (брата абвінавачанага Клінцэвіча). Таксама паклікана чатырох экспэртаў.

Па адчыненьні паседжаньня і спраўджэньні прысутных асоб і запрысяжэньні сьведак, ідзе чытаньне акту абвінавачваньня. Паводле сабраных у ходзе сьледзтва драбностак. цэлая справа традстаўляецца так: 16 сакавіка 1928 г. вечара ў кавярні на Ягелёнскай вуліцы 5, некалькімі стрэламі з рэвальвэру быў забіты Міхал Гурын б. рэдактар нелегальнага „Бальшавіка“ і правадыр сэцэсіі у К.П.З.Б. Спраўца страляў па забойстве, пагражаючы аружжам выбег на Гданскую вуліцу, дзе заступіў яму дарогу адзін з праходзячых, хочучы яго затрымаць. Уцякаючы, выстраліў у яго; але не папаў і бачучы набягаючых прахожых і паліцыю, зараз-жа скіраваўся на Гданскую вуліцу. Там быў затрыманы функцыянаром тав. „Ключы“ і абезаружаны. Затрыманы вылегітымаваўся пашпартам, выданым Слонімскім Старостcвам на прозьвішча Антона Пекарскага і ў часе дапросу сказаў толькі, што забіў Гурына з ідэёвых пабуджэньняў, дзею-

# Па правінцы.

### Зьявы з жыцьця працоўных гушчаў Беласточчыны.

Цяпер у нас маюць месца наступныя зьявішчы: (мова аб мэталюргічных фабрыках). Фабрыканты абвяшчаюць рабочым, што яны ад сёньняшняга дня працуюць у іх не падзенна, а зьдзельна. Кожны рабочы атрымлівае ад іх матэрыялы дзеля вырабу пэўных частак ці цэлых машынаў і атрымлівае ад кожнае, зробленае ім асабіста ці супольна з іншымі работнікамі, машыны, пэўную цаву.

Якая-ж карысьць фабрыкантам ад падобнае махінацыі?

А вось якая.

Работнікі, зацікаўленыя матэр‘яльна (чым болей зробіш машынаў у адзінку часу, звычайна ў тыдзень, тым больш атрымаеш грошай) скіроўваюць усе свае высілкі да павялічэньня прадуктыўнасьці іх працы. Пры гэтым ломяць 8-х гадзінных рабочы дзень, працуючы па 12 і болей гадзінаў у дзень. Фабрыканты, маючы у сваіх руках права ласкі: даць ці ня даць дадзенаму работніку дзеля вырабу тую ці іншую машыну, выкарыстоўваюць яго, робячы р ботніка пакорным, бо непакорны можа атрымаць малааплатную зьдзельную работу, ці зусім яе не атрымаць.

Разьбіваюцца рады работнікаў. Між імі узьнікае канкурэнцыя, пакірованая да атрыманьня якнайбольшага заказу на выраб машын. Работнік пападае у што раз большую залежнасьць ад фабрыканта „ліжацца да яго“, а той паступова паніжае зьдзельную плату, даводзячы яе да мінімуму. Такое зьявішча мае месца на ўсіх мэталюргічных фабрыках, на чугуналіцейным заводзе, фабрыцы земляробскіх прыладаў, самаходаў, ровараў і іншых... Апрача гэтага, фабрыканты маюць вялікую карысьць ад падобнае „сыстэмы“ пры аплаце падаткаў, адміністрацыі, мэханічнае і электрычнае энэргіі і інш...

У Беластоку істнуюць наступныя палітычныя арганізацыі:

П.П.С. (правіца); П.П.С. (лявіца); Н.П.Р.; Х.Д.; Б.Б.; Стронніцтво Хлопске; Бунд; Поалей Сыон (лявіца і прав.). Амаль усе соймавыя клюбы маюць свае сэкрэтарыяты. Трэ‘ адзначыць, што усе яны за выняткам П.П.С. (левіцы), імкнучыся да вядзеньня масаў па шляху угоды не спатыкаюцца на сьвядомасьць гэтых масаў і на належны адпор з іх боку.

Арганізацыі угоды П.П.С., Бунд, Н.П.Р., Х.Д. і т. д. асноўваюцца наступным спосабам:

Прыяжджае на вёску „дзеяч“ угадоваае арганізацыі, зьбірае на сход сялян, хваліць сваю арганізацыю, абяцае парупіцца сялянам пазыку (звычайна ад 1000 і болей злотых) і „спровадзіць штучных навозув“; сяляне запісываюцца, уносяць складку, атрымліваюць білеты і... вынік—пазыку і навозы бачаць ясна, як свае вушы. Такім чынам пашырыліся у нас пэпэсоўская „Культура“ і Хадэцкая „Дробні рольніцы“.

Істнуе на паперы 2 гурткі Ярэмічавага „Інстытуту“, але аб

[redacted]

чы сам без якіх-небудзь націскаў з боку трэціх асоб.

**„Пралом“.** Нас інфармуюць з Горадні, што там 19 чэрвеня г. г. выйшла і сканфіскавана беларуская аднаднёўка „Пралом“. За якія стацьці сканвіскавана — ня ведама. Газэта зьмяшчала: „Зьезд Т-ва Бел. Школы адбыўся“, „1-шы май 1929 г. на Зах. Беларусі“, „Прычыны голаду“, „Рэзалюцыі. прынятыя на Агульным Сходзе Т-ва Беларускае Школы 19—20 траўня г. г.“, „Падзеі на Лукішках“ і „Аб Беларускім прытулку ў Горадні“.

дзеяльнасьці іх ніхто нічога ня чуў.

### Замест сацыяльнае апекі за векавую службу — выганяюць...

(Новы Двор, Сіняўскае гм. Нясьвіжскага пав.)

Мяне за маю 43 гадовую службу ў двары абшарніца Марыя Сьвяціцкая выганяе з хаты: судзебны ўрадовец з Клецку трэбуе, каб мы 24 гадз. выехалі. Становішча наша прадстаўляецца так: мае бацькі працавалі ў гэтым-жа двары парабкамі, я яшчэ ў дзяцінстве пасьвіў коняй там-жа. Апошнія 23 гады я быў лясьніком, і 4 гады таму назад мы не прываліла ногу у лесе, у выніку чаго застаўся калекай на ўсё жыцьцё. Мне цяперачы 60 з чымсь гадоў. Зразумела, што будучы кульгавым, я не магу ўжо рабіць першай работы і дзеля гэтага абшарніца і рашыла выкінуць мяне з хаты, хоць яна і так ледзь трымаецца і мала прыгодная для жыцьця ў ёй. Ніякай дапамогі ад абшарніцы не атрымоўліваю і кармлюся я з агароду і кароўкі.

У 1926 годзе абшарніца судом дамагалася майго выгнаньня. Я тады падаў апэляцыю ў Наваградак, але ніякага адказу не атрымаў. Але раптам на днёх прыйшло трэбаваньне аб выезьдзе.

Калі мне дубам пераламала нагу, дык тагачасны ўласьнік двара Сьцяпан Сьвянціцкі дакляраваў мне збудаваць новую хату і даць зямлі, каб я і дзеці маглі карміцца. Але хутка яго забілі — бандыты і даклярунак ня быў выкананы. Між іншым у Несьвіжы я лячыўся на яго кошт. Пасьведчаньні аб лячэньні маю.

У мяне сямёра дзяцей, старшаму паралізаванаму 16 год, а малодшаму ўсяго 5 год.

Да таго, калі я быў вызначаны лясьніком, я выконваў у лесе звычайную працу парабка: гараў, касіў і інш. Усе мае паказаньні могуць пасьведчыць лічныя сьведкі.

Антон Антановіч

### За сялянскія грошы...

(Вялейскі павет).

У Вёсцы Іжа ёсьць поп, які бяз згоды большасьці парафіян дастаў дазвол на будову новае царквы. Выбраў з курчоў камісію і прыступіў да дзела. На закладзінах царквы поп са сваімі сябрамі справіў „маленькае“ гуляньне, дзе, „па хрысьціянскаму звычаю“, выпілі. Пасьля зьнялі са старое царквы звон, павесілі на стоўп і „упоені“ сьвятым духам, пачалі, хто чым папала, званіць, аж пакуль яго не разьбілі. Каб купіць новы звон і пакрыць выдаткі на будову царквы, разлажылі на сялян падатак, а хто, ня маючы грошай, адмаўляўся плаціць, таго поп называў камуністам і страшыў, што ў выпадку патрэбы не пашкадуе апошняе кароўкі, а некаторых проста пужаў пасаджэньням на Лукішкі.

Ну што-ж, будуйце царкву, поп за гэта дастане за вашы грошы рай на зямлі, а вы бедакі-сяляне, на... небе.

Цярплівы.

### „Беларусізацыя“ школ.

У маладэчанскай школе раней выкладалася беларуская мова, а цяпер ужо не выкладаецца.

Вось вам і „беларусізацыя“.

### Аб нашай моладзі.

Моладзь вёскі Мыльніскі, гм. Шарашова заместа таго, каб вясьці культурна-асьветную працу-напіваецца, а потым адбірае адзін другому жыцьцё. Брыдка гэтак, хлопцы, трэба працаваць на дабро народу, а не марнаваць без патрэбы свае сілы!

Сумуючы.

# З газэт.

### Голад і для голаду.

„Gazeta Warszawska“ з дня 2-га маю друкуе наступнае: „Голад і сьцягіваньне падаткаў у Віленшчыне“.

„у Dzien. Wil.“ знаходзім 2 пісьмы, у якіх чытаем з вялейскага пав.: „Палова люднасьці ня мае чаго есьці і то ў літэральным значэньні гэтага слова. Збожжа адносна не дарагое (6,50-7,00 зл. за пуд), аднак люднасьць не мае засабаў, каб купіць яго. Яшчэ горш з выкармленьнем жывога інвэнтара. Найноўшыя стрэхі ўжо парэзаныя на сечку. У шмат якіх гаспадароў коні не ўстаюць. Цяжка сабе прадставіць, як такім інвантаром трэба будзе працаваць на зямлі.

„У другім пісьме з беспасярэдніх ваколіцаў Вільні чытаем: Корму няма, а тут мароз, холад, дык у шмат якіх вёсках гаспадары, нават замажнейшыя, прыступілі да зьдзіраньня стрэх з дахаў, каб якнебудзь утрымаць пры жыцьці свой ліхі інвэнтар да першай травы. Каровы і коні так аслабелі, што трэба іх падымаць; часта падаюць аслабленыя, кароў дарэзваюць, але якая з іх карысьць, скура і тая ліхая. Гледзячы на ўсё гэтае агортвае чалавека роспач, выхаду ніякага. Недахопы гатоўкі і крэдытнай помачы без шалёных працэнтаў. Сытуацыю выкарыстоўваюць жыды. (Трэба думаць спэкулянты—гандляры. Рэд.) Пры сваёй салідарнасьці складаюцца па некалькі і прывозяць салому вагонамі з Пазнані., дзе яе хапае, зарабляючы ад 500 да 700 зл. на вагоне.

„Паміма так цяжкага гаспадарчага стану. сэквэстратары жадаюць аплачваньня залегласьцяў за прошлыя гады і апісваюць што можна на падаткі. Рэзультат: енк, плач, нараканьні на ўрад і г. д..“

Вось вам тыповы абразік голаду, напісаны пульхнаю рукою эндэка, не для таго, аднак, каб памагчы галадуючым, але каб укальнуць цяперашні урад, які адсунуў іх (эндэкаў) ад улады.

А цяпер паслухаем, як глядзіць на справу п. міністр. Незабытоўскі, прадстаўнік абшарніцтва ў Урадзе.

„Бяром у рукі № 121“ Dnia Polskiego“ з 6-га мая г. г. і чытаем артыкул пад загалоўкам: „Аб зямельных пытаньнях“ (вывед з міністрам рольніцтва п. Незабытоўскім).

Вось што між іншым кажа пан міністар:

„Мушу сьцвердзіць, што сапраўды сучасныя цэны на збожжа ёсьць зусім нізкія. Павышэньне цэн. на с.—гаспадарчыя прадукты неабходнае“.

Калі сялянін ня зможа купіць збожжа за 6,50,700 зл. за пуд, дык ці купіць ён тагды, калі цана павысіцца?

Але чытаем далей.

У пана міністра карэспандэнт запытаўся аб тым:

„Міністэрства Унутраных Спраў мае намер прадаць вялікую частку збожжа, якое знаходзіцца ў рэзэрвах заграніцу. Спачатку мелі вывезьці 25 тыс. тон, а цяпер нават і больш“.

П. Міністар адказаў:

„Справа ў тым, каб не ўвайсьці ў час новых жніў з залішне вялікімі запасамі збожжа, спрычынілася-б гэта да яшчэ большага зніжжэньня цэн“.

Дзіўны гэты „Dzień. Wil.“, калі піша, што ў Віленшчыне голад: які можа быць голад, калі п. Міністар баіцца, каб не засталося збожжа у часе да новых жніў?

І ёсьць-жа людзі на сьвеце.

Рэдактар — Выдавец АЛЬЖБЕТА МАЛЬЧЕЎСКАЯ.

Беларуская друкарня Ім. Фр. Скарыны, Вільня, Людвісарская 1.